МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 11-12 (163)
лістапад - снежань 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ І "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПАВІНШАВАЛІ СВЯТЛАНУ АЛЕКСІЕВІЧ У СТАКГОЛЬМЕ

10 снежня 2015 года беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч атрымала з рук караля Швецыі Карла XVI Густава Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры за 2015 год. Спецыяльны камітэт Шведскай акадэміі прысудзіў ёй гэтую прэмію 8 кастрычніка 2015 года за "шматгалосае гучанне яе прозы і ўвекавечанне пакут і мужнасці".



*Святлана Алексіевіч выступае з банкетнай прамовай*

У сваёй банкетнай прамове пасля атрымання прэміі Святлана Алексіевіч расказала свету пра Беларусь, а таксама з удзячнасцю ўзгадала сваіх "настаўнікаў" - беларускіх пісьменнікаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча.

"Мяне называюць пісьменнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...", - сказала Святлана Алексіевіч у прамове.

Дзякуючы Святлане Алексіевіч упершыню з нобелеўскай трыбуны прагучала беларуская мова.

Адразу пасля атрымання прэміі кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка) і Алесь Пашкевіч разам з кіраўнікамі "Бацькаўшчыны" Аленай Макоўскай і Нінай Шыдлоўскай асабіста павіншавалі першага беларускага набеліята. Трэба адзначыць, што прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў і прадстаўнікі "Бацькаўшчыны" былі запрошаны на цырымонію ўручэння Нобелеўскай прэміі па запрашэнні Шведскага саюза пісьменнікаў, з якім плённа супрацоўнічаюць ужо амаль 8 год.


*Старшыня Шведскага саюза пісьменнікаў Гюнэр Ардэліўс, Святлана Алексіевіч, Ніна Шыдлоўская, Барыс Пятровіч. Фота Марыі Сёдэрберг*

Пра ўражанні ад цырымоніі распавядае Ніна Шыдлоўская:

"Мы шчыра ўдзячныя Шведскаму саюзу пісьменнікаў за магчымасць прысутнічаць на ўручэнні Нобелеўскай прэміі. Цырымонія была вельмі прыгожая і ўрачыстая. Пасля таго як спадарыня Святлана атрымала прэмію з рук караля, у зале быў сапраўдны шквал апладысментаў. Нашаму набеліяту апладзіравалі нашмат даўжэй, чым іншым. ➲

Мы лічым гэта заслужанай ацэнкай творчасці Святланы Алексіевіч. І канешне ж для ўсіх нас гэта быў вельмі хвалюючы і ўзнёслы момант”.

Алена Макоўская адзначыла значнасць падзеі і дадала: “Адразу пасля ўручэння прэміі мы разам з іншымі беларусамі, а таксама нашымі шведскімі сябрамі падняліся на сцэну, каб павіншаваць спадарыню Святлану. Відаць было, што яна гэтага не чакала і была вельмі ўсцешана. Толькі пасля заканчэння цырымоніі мы зразумелі наколькі хваляваліся, бо гэта сапраўды знакавы, адказны момант для ўсёй нашай краіны. Мы вельмі ганарымся тым, што нам пашчасціла прысутнічаць на цырымоніі ўручэння першай у гісторыі Беларусі Нобелеўскай прэміі”.

*На фота справа: Святлана Алексіевіч прымае віншаванні ад Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай (Фота Аляксандры Дынько).*

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



## КВЕТКІ ДЛЯ КАРАТКЕВІЧА



26 лістапада, у дзень, калі Уладзіміру Караткевічу споўнілася б 85 гадоў, на Усходніх могілках у Мінску, дзе пахаваны пісьменнік, адбылося ўскладанне кветак да яго помніка.

Успомніць Уладзіміра Сямёнавіча і ўшанаваць ягоную памяць прыйшлі Старшыня ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” Барыс Пятровіч, першы намеснік Старшыні Алесь Пашкевіч, кіраўнік МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” Алена Макоўская, Старшыня Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” Ніна Шыдлоўская, літаратуразнавец Ціхан Чарнякевіч і паэтка Віка Трэнас.

*На фота злева направа: Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская, Барыс Пятровіч, Ціхан Чарнякевіч, Алесь Пашкевіч*

*Паводле budzma.by*

## СОТЫ РАЗ У ПЕРШЫ КЛАС! ПАЧАЛАСЯ АКЦЫЯ ДА 100-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Соты раз у першы клас! Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, Саюз беларускіх пісьменнікаў і баскетбольны клуб “Цмокі-Мінск” у межах грамадскай культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!” абвесцілі акцыю, прысвечаную 100-годдзю беларускай легальнай школы!

13 лістапада 1915 года ў Вільні была заснаваная першая афіцыйная беларуская школа, якая дала легальны пачатак масаваму беларускаму школьніцтву. Менавіта гэтая дата ў міжваеннай Заходняй Беларусі і ў БССР у 1920-я гады святкавалася як Дзень беларускай школы.

У межах акцыі “Соты раз у першы клас!” плануюцца разнастайныя актыўнасці і мерапрыемствы ў інтэрнэце і рэальным жыцці. Ініцыятары акцыі прапануюць супольна абмеркаваць стан беларускага школьніцтва ўчора і сёння, паразважаць над тым, што змянілася за 100 гадоў існавання беларускай школы, і пашукаць адказ на пытанне, чаму так мала нашых суайчыннікаў абірае для сваіх дзетак навучанне па-беларуску.

У гарадах і мястэчках па ўсёй Беларусі адбудуцца сустрэчы, падчас якіх вядомыя айчынныя літаратары, спартоўцы, грамадскія дзеячы раскажуць пра славутых беларусаў, што стаялі ля вытокаў нацыянальнай школы, – Алаізу Пашкевіч, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янку Купалу, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і іншых знакавых постацяў беларускага адраджэння.

Ідэя акцыі неабыякавая і вам? Маеце крэатыўныя прапановы? Пішыце нам на razam@budzma.org і sbp@lit-bel.org.

Сачыце за навінамі на сайтах арганізатараў і далучайцеся да акцыі!

Зробім разам школу беларускай!

*budzma.by*

## ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў снежні і студзені: **Радзіма Гарэцкага, Паўла Севярынца, Станіслава Шушкевіча, Ніну Шыдлоўскую, Вольгу Іпатаву, Ірыну Віданаву, Алега Дашкевіча, Алеся Лагвінца** (Беларусь), **Алену Чуяшкову** (Данія), **Кірыла Касцяна** (Чэхія), **Алесю Кіпель** (ЗША). Зычым радасці і выдатнага настрою ў любое надвор’е, моцы і трывалага здароўя, спагады сяброў і цеплыні ды святла на душы!

25 студзеня юбілей адзначае **Зінаіда Клыга** (Эстонія), а 31 студзеня 70-год спаўняецца **Міколу Купаву** (Беларусь). Шаноўныя юбіляры! Ад шчырага сэрца віншуем вас са святам і зычым моцнага здароўя, даўгалецця, творчага натхнення, болей шчаслівых і сонечных дзён у жыцці!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



## ВЫДАДЗІМ "ЦЫТАТНІК БЕЛАРУСКАГА МЫСЛЕННЯ" РАЗАМ!

Кампанія "Цытуй сваё" распачала збор сродкаў для выдання зборніка цытатаў праз платформу "Талакошт".

Шэраг інстытуцый грамадзянскай супольнасці ды адукацыйных установ – Міжнародны кансорцыум "ЕўраБеларусь", грамадская кампанія "Будзьма беларусамі!", Лятучы ўніверсітэт, Беларускі саюз дызайнераў, "Мова Нанова" — праз гэтую кампанію звярнулі ўвагу беларусаў на тое, што мысленне – гэта самаразуменне нацыі, а думка мае характар пераемнасці. Кампанія "Цытуй сваё" заклікала беларусаў згадаць найлепшыя ўзоры беларускай думкі і прадставіць іх шырокай публіцы. Падчас кампаніі арганізатары атрымалі больш за 250 цытат розных беларускіх мысляроў, літаратараў, навукоўцаў і гістарычных дзеячаў. Была створаная галерэя дызайнерскіх цішотак. Склаўся фан-клуб беларускай думкі. Наступны крок кампаніі — выданне "Цытатніка беларускага мыслення".

Ён будзе мець кішэнны фармат і прывабны выгляд. "Цытатнік" стане зручным спадарожнікам па дарозе ў вандроўку ці на працу, ён будзе цудоўным падарункам як для аматараў беларушчыны, так і для тых, хто з беларускай культурай яшчэ не знаёмы.

Важна, каб выданне цытатніка стала такой жа народнай справай, як і збор слушных думак і вобразаў.

Кампанія "Цытуй сваё" заклікае ўсіх, каму важна працягнуць ланцужок беларускай думкі і ўзбагаціць нашую культурную прастору, далучыцца да стварэння цытатніка справай і грашыма!

Збор сродкаў і прапановаў пра супрацоўніцтва ідзе на платформе "Талакошт".

Ведай думкі папярэднікаў! Пагаджайся альбо спрачайся з імі!

Цытуй сваё!

*budzma.by*

## #БУДЗІЛЬНІК: ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ФЛЭШМОБУ ДАБРЫНІ АД "БУДЗЬМЫ!"

Абудзім дабрыню разам! Напярэдадні Калядаў і Новага года грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" запусціла добры флэшмоб #Будзільнік!

Кожнаму з нас хочацца верыць, што 2016 год будзе лепшы за 2015. Кожны з нас марыць пра шчасце і дабрыню. Давайце разам скончым гэты няпросты год без сварак і спрэчак. "Будзьма!" абвяшчае снежань добрым месяцам і прапануе разам адзначаць кожны дзень набліжэння Калядаў невялічкай, нескладаной, але добрай справай!

Згодныя? Тады наперад!

* Штодзень – з 1 па 24 снежня – шукайце на сайце budzma.by, а таксама ў сацыяльных сетках кампаніі (facebook і VK) новае добрае заданне.

* Выконвайце яго і пішыце / інстаграмце нам пра гэта з хэштэгам #будзільнік або #budzilnik.

* Дзяліцеся любымі добрымі навінамі, цікавымі гісторыямі, якія палепшылі




ваш сённяшні настрой. Не забывайцеся пры гэтым на хэштэг #будзільнік або #budzilnik!

Добрыя заданні #Будзільніка не адбяруць шмат часу, але гарантавана палепшаць нашае супольнае жыццё! :)

Тыя з вас, хто будзе штодзень паслядоўна выконваць заданні #Будзільніка або падзеліцца гісторыяй/на-віной, градус дабрыні якой будзе зашкальваць, атрымае калядны падарунак ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".

Далучайцеся да флэшмобу! Распавядзіце пра яго сябрам!

Абудзім дабрыню разам!

*budzma.by*

НАВІНЫ ДРУКУ

## РЫГОР БАРАДУЛІН – ДЗЁННІКІ І ЗАПІСЫ, ПАДАРОЖЖЫ І ЎСПАМІНЫ

Другі выпуск "Дзённікаў і запісаў (1970–1978)" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна пабачыў свет у выдавецтве "Кнігазбор" дзякуючы супольным намаганням МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Кніга выйшла ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". Нагадаем, выхад першага выпуску быў прымеркаваны да 80-годдзя з дня нараджэння Рыгора Іванавіча.

У новай кнізе сабраныя рабочыя штодзённікі, запісы шматлікіх паездак па беларускіх гарадах і вёсках, нататкі ў часе вандровак па рэспубліках былога Савецкага Саюза, а таксама зацемкі пра ўбачанае ў Даніі, Фінляндыі і Швецыі.

У другі выпуск увайшлі раней не друкаваныя ў зборніках вершы, сяброўскія эпіграмы, дарчыя рыфмаваныя надпісы на кнігах, а таксама асобныя вершы, прысвечаныя самому дзядзьку Рыгору, у тым ліку фотаздымкі, малюнкі сяброў і новых знаёмцаў.

1970-я гады для Рыгора Барадуліна, як адзначае ўкладальніца кнігі і аўтарка прадмовы да яе Наталля Давыдзенка, "гады неўпрыкмет пасталелай маладосці з яе гарачымі жаданнямі, прагай новых ураджанняў і сустрэч, душэўных зрываў і напружанай творчай працы". У 1971 годзе не стала самага роднага і блізкага чалавека для Рыгора Іванавіча — яго маці. У гэты час паэт піша паэму ў памяць пра яе "Бяроза з лістам гаварыла…"

Выйшлі ў азначаны перыяд паэтычныя кнігі, зборнікі гумару, перакладаў паэзіі Лоркі і Ясеніна, тры кніжкі вершаў для дзяцей.

"Нешта трэба, проста неабходна напісаць пра Ушаччыну, пра тое, што ў мяне асталося ад мамы ў памяці і ў такіх-сякіх запісах. Тут павінны будуць быць і вершы, і проза, і прыбабунькі, і матэрыялы ўшацкага слоўніка. І ўсё гэта павінна чытацца, каб не наганяла сон салодкі…".

**Шукайце другі выпуск "Дзённікаў і запісаў" Рыгора Барадуліна ў мінскіх крамах: "Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72); "Кнігарня логвінаЎ" (пр-т Незалежнасці, 37А); "Кніжны салон" (вул. Калініна, 5); "Кнігарня пісьменніка" (вул. Казлова, 2); "Веды" (вул. К. Маркса, 36); "Светач" (пр-т Пераможцаў,**




**11); "Цэнтральны кніжны" (пр-т Незалежнасці, 19); Кніжная выстава-кірмаш "Мир книг" (вул. Янкі Купалы, 27). І ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.**

*Паводле прэс-службы ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*

# ВАЛЕР БАРТАШ. НЕМУДРАГЕЛІСТЫЯ ЎСПАМІНЫ

Сям'я наша пераехала з Беларусі ў Севастопаль ў лютым 1948 года. Жылі мы на беразе мора, недалёка ад сцен старажытнага Херсанэса на тэрыторыі зенітнай батарэі, камандзірам якой быў бацька. Засынаў і прачынаўся я пад мармытанне хваляў і страявыя песні салдат. Часам зброя батарэі аглушальна страляла –- аж шыбы бразгаталі. З дзіцячых гадоў я ўвабраў у сябе гісторыю Севастопаля –- марской крэпасці рускай славы –- і стаў севастопальцам, але рускім не стаў. Бацька і мама лічылі сябе беларусамі, ды і графа "нацыянальнасць" у дакументах не давала забыцца пра сваё паходжанне.

Што існуе гістарычны герб беларусаў – "Пагоня", - даведаўся ў 1960 годзе ў Мінску, дзе я быў праездам з Вільнюса. Ён прамільгнуў нейкія секунды на тэлевізійным экране ў перадачы пра беларускіх нацыяналістаў. Было мне 15 гадоў. Герб застаўся ў памяці, часам я задуменна маляваў Рыцара на кані з занесеным мячом і шчытом, упрыгожаным шасціканцовым крыжам.

Распад Савецкага Саюза, утварэнне дзяржавы Рэспублікі Беларусь ускалыхнула. Пра гэта і не марыў, а толькі задумваўся. Беларускай мове і чытанню навучыўся па газеце "Літаратура і мастацтва". Там і прачытаў інтэрв'ю з Ганнай Сурмач аб дзейнасці Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", аб падрыхтоўцы з'езду. У тэксце мелася на ўвазе запрашэнне. Лічыў сябе сузіральнікам і таму не паехаў.

Але мінулае не адпускала – наступіў змрочны, трывожны, а для некаторых і крывавы час пакут. У зале Вярхоўнага Савета дэманстратыўна збілі дэпутатаў-патрыётаў, учынілі здзек з бел-чырвона-белага сцяга, сарвалі "Пагоню"… У ліпені 1997 года я прыехаў у Мінск на 2-гі З'езд Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". 33 гады не быў у Беларусі. Прымчаўся ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча, пазнаёміўся з дырэктарам Алесем Бяляцкім. У зале тэатра, дзе праходзіў з'езд, суседняе крэсла займаў падобны да Дон Кіхота паэт Сяргей Панізнік. У перапынку падышоў да пісьменніка Васіля Быкава. Убачыў людзей, якіх ведаў толькі па газетных публікацыях... Запомніліся беларуская татарка Разалія Александровіч, падобны да адэсіта Адам Мальдзіс. Прыцягнула ўвагу эфектная журналістка з дыктафонам, як высветлілася, паэтка Іна Снарская з Украіны. З трыбуны нязвыкла гучала толькі беларуская гаворка – выступалі дэлегаты, якія перажывалі за будучыню Беларусі, а вакол будынка тэатра, дзе праходзіў з'езд, стаялі міліцыянты з сабакамі. Атмасфера была напружаная.

Быў на наступных з'ездах. Памятаю як замірала зала, калі да трыбуны накіроўваўся айцец Надсан з Вялікабрытаніі – гаворка яго зачароўвала. Пазнаёміўся з мастаком Алесем Марачкіным і яго сям'ёй. Карціна пэндзля мастака "Я не самотны", на якой намаляваны Максім Багдановіч у Ялце, уручалася ў Літаратурным музеі паэта. Сяргей Панізнік напісаў верш "Севастопаль", глыбокі па сэнсе, без знарочыстага пафасу, меладычны. Радзім Гарэцкі, Юры Хадыка, Алег Трусаў, Янка Запруднік, Вінцук Вячорка, Павал Севярынец, Зміцер Дашкевіч... Калі б я ведаў, што ёсць такія беларусы, што ёсць такая Беларусь – прыязджаў бы кожны год! Адно толькі сузіранне гэтых людзей, кароткачасовыя зносіны з імі заклікалі да дзеянняў. У Севастопаль вяртаўся літаральна насычаны энергетыкай беларускага патрыятызму, з бел-чырвона-белымі сцягамі і кнігамі.

25-годдзе Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" – сведчанне вернасці беларускай нацыянальнай ідэі. Ідэя гэтая жывая нягледзячы на візантыйскія інтрыгі і рэпрэсіі лукашэнкаўскай чэлядзі. Запомніліся словы Ганны Сурмач, сказаныя зімой пры сустрэчы незадоўга да яе эміграцыі ў пустым, змрочным офісе "Бацькаўшчыны": "Усё роўна праб'ецца (беларускасць), як трава праз асфальт праб'ецца".

На жаль, сышлі ў вечнасць, але засталіся ў памяці браты Грыцкевічы, Рыгор Барадулін і не толькі яны. Назаўжды застанецца пуцяводнай зоркай першы кіраўнік Згуртавання пісьменнік Васіль Быкаў. У кіраўніцтве адбылася змена пакаленняў, якая творча працягвае адстойваць беларускасць – гонар і годнасць беларускай нацыі. У год 25-годдзя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і 95-годдзя Слуцкага збройнага чыну вітаю ўсіх сябраў Малой і Вялікай Радаў Згуртавання, усіх, хто "не забыў, не адрокся, не прадаў", хто не дазваляе сваімі актыўнымі дзеяннямі аддаць Беларусь у палон! Вечная памяць загінулым героям і праведнікам беларускасці, якія сышлі на нябёсы! Гонар і Слава тым, хто сёння на Бацькаўшчыне працягвае іх справу! Жыве Беларусь! Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць! Праўда пераможа!

*Паводле Валера Барташа*
*Цалкам тэкст чытайце на "Радыё Свабода"*

МЕРКАВАННЕ

# ШТО НАС ЧАКАЕ ЗАЎТРА? АДКРЫТЫ ЛІСТ СТАРШЫНІ УСЕЎКРАІНСКАГА САЮЗА БЕЛАРУСАЎ

Разважаючы пра перспектывы нашай беларускай дыяспары, задаешся пытаннем: а як вырашаюцца надзённыя праблемы жыцця і дзейнасці дыяспары ў іншых краінах, скажам, у найбліжэйшых суседзяў? І ў сувязі з гэтым не тое каб адчуваеш недасканаласць, але ўзнікае адчуванне, што не стаіць беларуская дыяспара на парадку дня ў найвышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў. Па-добраму пачынаеш зайздросціць тым жа расійцам альбо ўкраінцам.

Да прыкладу, у лістападзе ў Маскве прайшоў V Сусветны кангрэс расійскіх суайчыннікаў, якія пражываюць за мяжой. У форуме ўзялі ўдзел больш за 400 пасланцоў арганізацый суайчыннікаў з 97 краін свету, кіраўнікі федэральных органаў улады, прадстаўнікі шэрагу расійскіх рэгіёнаў. Адкрыў Кангрэс міністр замежных спраў Расійскай Федэрацыі С. Лаўроў. Прыйшоў павітаць расійцаў замежжа і Прэзідэнт, Уладзімір Пуцін. Як бачым, у Расіі пытанням суайчыннікаў надаецца ўвага на самым высокім узроўні.

А ўзяць тых жа ўкраінцаў: за мяжой сваёй краіны іх пражывае больш за 20 мільёнаў. Сусветны кангрэс украінцаў грае важную ролю звяна, што звязвае іх з Радзімай. Гэтая арганізацыя цесна працуе разам з украінскім урадам для развіцця сувязяў паміж Украінай і яе дыяспарай. Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка абмяркоўвае з кіраўніцтвам СКУ і ўкраінскіх дыяспар важныя для дзяржавы пытанні. Чытаеш гэтыя паведамленні ў інтэрнэце і думаеш: "А што ж мы, беларусы?".

Амаль паўтара дзясятка гадоў ішла размова аб прыняцці закона аб суайчынніках за мяжой. Прынялі. І гэта вельмі добра, нягледзячы на тое, што гэты Закон носіць рамачны характар. Але ўжо вельмі доўга ўсё адбываецца, а свет жа паскараецца. Усеўкраінскі саюз беларусаў два гады спрабуе дастукацца да найвышэйшых дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь. Мы, беларусы, цярплівыя і ўсё яшчэ спадзяемся, што вышэйшае кіраўніцтва краіны пачуе наш чарговы зварот і знойдзе магчымасць сустрэцца з прадстаўнікамі Усеўкраінскага саюза беларусаў для абмеркавання важных пытанняў прадуктыўнага супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай.

*Падаецца ў скароце паводле Пятра Лайшава, старшыні Усеўкраінскага саюза беларусаў*

*Цалкам чытайце на zbsb.org*

## ПОМНІК НА МАГІЛУ БАРАДУЛІНА ЎСТАЛЁЎВАЛІ 25 ЧАЛАВЕК І АДЗІН ВЕРТАЛЁТ




Такі помнік Рыгор Барадулін сам сабе напрарочыў яшчэ пры жыцці.

У ягоным вершы “Прашэнне” ёсць радкі: “Калі я адыду, пастаўце мне валун сівы і крыж на валуне...”.

Валун, які апусцілі на магілу Рыгора Барадуліна, важыць дзве з паловай тоны. На ім высечаны крыж і надпіс “Рыгор Барадулін. Сын. 1935–2014”. Побач будзе стаяць помнік маці паэта.

Паводле задумы Ігара Засімовіча, скульптара, які стварыў мемарыяльны комплекс, усю пляцоўку з дзьвюх магілаў — маці і сына — заклалі жорнамі, якія звозілі з усяго рэгіёну. Жорны — гэта сімвал вечнасці, сялянскай працы, беларускасці.

Супрацоўнікі МНС знайшлі аптымальную траекторыю, каб апусціць валун верталётам на магілу.

25 чалавек цягам дня нанасілі на магілу Рыгора Барадуліна 800 вёдраў цэменту. Сам валун узялі з вёскі Кублічы, дзе хадзіў у школу Васіль Быкаў.

Прадстаўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў Глеб Лабадзенка адзначыў, што вельмі вялікую дапамогу і спрыянне аказвалі мясцовыя ўлады.

*Паводле “Радыё Свабода”*

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА І КУЛЬТУРА ВЯРТАЮЦЦА Ў БЕЛАСТОЦКІ ЎНІВЕРСІТЭТ

З новага навучальнага года ў Беластоцкім універсітэце стартуе факультэт беларускай этнафілалогіі.

“Раней у ВНУ закрылі факультэт беларускай філалогіі, таму рашэнне Сенату ўніверсітэта радуе,” – кажа прафесар Галіна Тварановіч, суаўтарка праграмы беларускай этнафілалогіі.

Навучанне арганізуецца ў Інстытуце ўсходнеславянскай філалогіі на філалагічным факультэце.

Новая праграма, апроч беларускай мовы і культуры, засяродзіцца на вывучэнні гісторыі і традыцый беларускай меншасці на Падляшшы.

*Паводле “Беларускага Радыё Рацыя”*

## У ВІЛЬНІ ПРЭЗЕНТАВАЛІ КНІГУ ВІКТАРА МАРЦІНОВІЧА ПРА МАРКА ШАГАЛА




16 лістапада ў Вільні прайшла прэзентацыя новай кнігі Віктара Марціновіча “Радзіма. Марк Шагал у Віцебску”, выданню якой паспрыяла і кампанія “Будзьма беларусамі!”. Мерапрыемства праходзіла ў Беларускім Доме правоў чалавека і сабрала каля 50 аматараў мастацтва. У дыскусіі прыняў удзел Сяргей Харэўскі, вядомы беларускі мастацтвазнаўца і рэцэнзент кнігі. Да абмеркавання ў якасці мадэратара далучыўся і Дзяніс Кучынскі, Прэзідэнт Студэнцкага прадстаўніцтва ЕГУ.

На пачатку мерапрыемства ўсе прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчання памяць ахвяр нядаўніх трагічных падзей у Парыжы – другім доме Марка Шагала.

Падчас сваёй уступнай прамовы Дзяніс Кучынскі назваў кнігу Віктара Марціновіча “навуковым даследаваннем і мастацкім творам адначасова”. На яго думку, нягледзячы на свой навуковы характар, кніга мае глыбокі драматычны дух у спалучэнні з вельмі тонкімі асабістымі перажываннямі: “Гэта гісторыя – увасабленне драмы і прыклад таго, як з пакут нараджаецца вялікая любоў”.

Сяргей Харэўскі, вядомы беларускі мастацтвазнаўца, назваў кнігу “разбурэннем тых апокрыфаў і міфаў пра Марка Шагала, які дасюль пануюць у літаратуры”. І нягледзячы на тое, што спачатку ён паставіўся да планаў наконт напісання кнігі з недаверам, пасля яе выхаду мастацтвазнаўца быў прыемна здзіўлены паўнатой і глыбінёй даследавання.

Прадставіў сваю кнігу і сам Віктар Марціновіч – вынік вялікай, 15-гадовай даследчай працы, які быў упершыню надрукаваны ў Выдавецтве ЕГУ пры актыўнай падтрымцы Студэнцкага Прадстаўніцтва ЕГУ. Марціновіч выказаў надзею, што яго твор будзе цікавы не толькі спецыялістам, але і шырокай аўдыторыі чытачоў.

*Паводле “Нашай Нівы”*

## У БЕРЛІНЕ ВЫЙШАЎ НАЙБУЙНЕЙШЫ НЯМЕЦКАМОЎНЫ ДАВЕДНІК ПА БЕЛАРУСІ

У берлінскім выдавецтве Trescher трохтысячным накладам выйшаў найбуйнейшы даведнік па Беларусі на нямецкай мове. Аўтары выдання аб'ёмам 500 старонак — Андрэ Бём і Марына Рахлей.

“Большая частка даведачнага выдання прысвечаная гісторыі краіны, сучаснай сітуацыі ў палітыцы, эканоміцы, культуры, рэлігіі. Кароткі руска-беларуска-нямецкі слоўнік спатрэбіцца ўсім, хто не валодае гэтымі мовамі”, — паведаміла Рахлей.

Аўтары падкрэсліваюць, што гісторыя Беларусі непарыўна звязаная з гісторыяй развіцця еўрапейскага кантынента і гісторыяй еўрапейскіх войнаў. Даведнік апісвае асаблівасці культурнага і дзяржаўнага станаўлення краіны. “Менавіта таму мы “ўпісалі” ў даведнік не самыя прывабныя з пункту гледжання чыстага турызму мясціны. Наша канцэпцыя: “Краіна і яе культура — гэта больш, чым можна ўбачыць вачамі”, — зазначыла сааўтар.

*Паводле “Нашай Нівы”*

## 15-ГОДДЗЕ АЎТАНОМІІ БЕЛАРУСАЎ ТОМШЧЫНЫ: СВЯТА, ЯКОЕ ЗАПОМНІЦЦА

Слаўна, на ўздыме адсвяткавала Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў у Томскай вобласці сваё 15-годдзе. Мерапрыемствы з гэтай нагоды прайшлі 5-7 лістапада. Яны ўключалі канцэртную частку, выставы, беларускія народныя танцы, выставы, круглы стол, майстар-класы, экскурсіі і вандроўкі па Томску і Томскай вобласці – у беларускую вёску Манастырка, у санаторый Сіні Уцёс за 130 кіламетраў ад Томска.

На святкаванне з'ехалася мноства гасцей: найперш з Расіі, але былі госці і з Казахстана, і з Ізраіля, і, вядома ж, не абышлося без госця з самой Беларусі. Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выправіла ў далёкую вандроўку барда Алеся Камоцкага, які прывёз беларусам Томшчыны цёплыя вітанні з Радзімы і цудоўныя беларускія песні.

Старшыня аўтаноміі беларусаў Любоў Адаскевіч, якая з імпэтам і дасведчанасцю падрыхтавала такую разнастайную і насычаную праграму, кіруе арганізацыяй усе гэтыя гады – і варта адзначыць, робіць гэта выдатна. Дзякуючы яе нястомнай працы і руплівасці сябры аўтаноміі адчуваюць сваё адзінства, а беларуская прысутнасць у Томскай вобласці выразна бачная. Алесь Камоцкі, завітаўшы на сядзібу "Бацькаўшчыны" пасля падарожжа, каб падзяліцца ўражаннямі, не раз выказваў захапленне высокай прафесійнасцю спадарыні Любові.



Думаецца, што ў памяці ўдзельнікаў свята надоўга застануцца цёплыя згадкі пра гасціннасць і спраўнасць беларусаў Томшчыны, а сябры аўтаноміі атрымалі сапраўднае натхненне для новых выдатных справаў. Шмат яшчэ юбілеяў наперадзе, а здзяйсненняў – болей шматкроць!

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КОЛА НЕ ЗАМКНУЛАСЯ

"Беларускай культурай зачаруем Сібір!" – так называўся дакументальны фільм, прымеркаваны да 15-годдзя Новасібірскага цэнтра беларускай культуры. Фільм змясціў асноўныя падзеі ў жыцці цэнтра, пачынаючы з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага руху ў Сібіры, і да нашых дзён. І ў назве гэтай сапраўды адбілася велізарная культурна-асветніцкая дзейнасць цэнтра. Створаны ў 2000 годзе, цэнтр увесь гэты час вёў сталую працу па адраджэнні, захаванні і развіцці беларускай нацыянальнай культуры. Як вынік – 16 філіялаў, з якімі цэнтр пастаянна падтрымлівае сувязь і ў будні, і ў святы.

Гэтым разам традыцыйнае восеньскае свята "У гасцях у Лявонісі" супала з юбілеем НЦБК. З'ехаліся найлепшыя самадзейныя калектывы з вобласці, з усяго Сібірскага рэгіёну. Быў арганізаваны сапраўдны беларускі кірмаш, дзе народныя ўмельцы выставілі мудрагелістыя вырабы з дрэва, керамікі, саломкі, праводзілі майстар-класы.

Увогуле, усё як заўсёды. Толькі праходзіла гэтае свята ўпершыню без яго галоўнага арганізатара, нязменнага кіраўніка цэнтра Ніны Васільеўны Кабанавай. Яна актыўна рыхтавалася да гэтай знамянальнай даты, бударажыла сваіх супрацоўнікаў, але зусім незадоўга пайшла з жыцця.

Чалавек, шчыра адданы нацыянальнай беларускай ідэі, Ніна Васільеўна сваім несуцішным тэмпераментам здолела аб'яднаць усіх, хто неабыякавы да нацыянальнай культуры беларусаў. Яе шчодрасць, гасціннасць, арганізатарскія здольнасці вядомыя ўсім, хто з ёй меў зносіны. Таму болем і смуткам адгукнулася ў сэрцах усіх, хто ведаў Ніну Васільеўну, вестка пра яе раптоўную трагічную смерць.

І ў афіцыйных віншаваннях са святам гучала высокая ацэнка працы Цэнтра, з якім непарыўна звязана імя яе нязменнага дырэктара. І калі прагучала прапанова ўшанаваць хвілінай маўчання памяць Ніны Васільеўны, устала ўся перапоўненая зала. Гэта натуральна: новасібірцам добра знаёмыя добрыя справы Цэнтра, якія значна ўзбагачае культурную палітру шматнацыянальнага горада.

Былі і падарункі, і падзякі за запрашэнне ад артыстаў з Томска, Казахстана, іншых гарадоў. Беларускую песню выканала 8-гадовая ўнучка Ніны Васільеўны – чароўная Сонечка, якую яе знакамітая бабуля старанна далучала да беларускай культуры, не раз вазіла яе на гістарычную Радзіму.

Шмат добрых слоў і пажаданняў прагучала ў адрас супрацоўнікаў цэнтра: Анжалікі Несцеркінай, Крысціны Карпавай, якая зусім нядаўна прыйшла ў цэнтр, асабліва Анастасіі Трубянковай, прызначанай выконваючай абавязкі кіраўніка. Насцю, вядомую салістку Цэнтра, удзельніцу шматлікіх міжнародных і ўсерасійскіх конкурсаў, Ніна Васільеўна песціла і выхоўвала, бачачы ў ёй сваю пераемніцу. Так што кола не замкнулася.

*Людміла Бяляўская*

## БЕЛАРУСЫ ЎЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У АДКРЫЦЦІ Ў ВАШЫНГТОНЕ МЕМАРЫЯЛУ АХВЯРАМ ГАЛАДАМОРУ

У суботу, 7 лістапада, у Вашынгтоне адбылася адметная падзея, пасля якой у сталіцы ЗША афіцыйна існуе памятка пра адну з трагічных старонак XX ст. — Галадамор ва Украіне ў 1932-33 гадах. У гэты дзень адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця Мемарыяла памяці ахвяраў Галадамору. Падчас мітынгу выступілі прадстаўнікі амерыканскіх уладаў, дзеячы ўкраінскай эміграцыі, з Украіны прыехала жонка прэзідэнта Марына Парашэнка, было паказана відэа з прывітальным словам Пятра Парашэнкі.

На ўрачыстасць з'ехаліся ўкраінцы з цэлай Амерыкі, з Нью-Ёрка таксама прысутнічала вялікая грамада. БАЗА атрымала запрашэнне узяць удзел і наша дэлегацыя ў складзе 15 асобаў разам з украінцамі з Нью-Ёрка таксама выехала ў Вашынгтон. Мы лічылі патрэбным падтрымліваць нашых суседзяў і раздзяляць з імі радасць і смутак.

Стараліся мы як найбольш выразна прадставіць нашу прысутнасць на мітынгу: разгарнулі вялікі бел-чырвона-белы сцяг, зрабілі плакат з Пагоняю і надпісам "Беларусь". Так што абысці ўвагаю нашу групу было амаль немагчыма, шмат людзей падыходзілі, пыталіся, рабілі фота.

Там мы сустрэлі даўняга сябра беларусаў – амерыканскага дыпламата і выдатнага фатографа Джона Кунстадтэра, які таксама наведаў урачыстасць.

*Паводле Ганны Сурмач*

## ПАД ГУКІ РОДНАЕ ПЕСНІ: СВ. ПАМЯЦІ МІКАЛАЙ КАСЦЮК

**(Жыровічы, 18.02.1928 — Саўт-Рывер, 30.09.2015)**



Колю пахавалі ў цёплы восеньскі дзень — у згодзе з ягонай лагоднай натурай. Сонечнае святло моўчкі дакраналася да вянкоў з жывых кветак, што абнялі магілу; да маўклівых постацяў сям'і й сяброў; да навакольных крыжоў і зялёнай ящчэ травы. На кароткі момант суняліся ўсплёскі "жыцейскага мора" для развітальнікаў, і назаўсёды — для нябожчыка. У яго адбылася вехавая перамена цялеснага ў духовае, а тымчасовага ў вечнае.

На гэтым могільніку Коля бываў мноства разоў за сваё жыццё — найбольш з нагоды провадаў на той свет сяброў і знаёмых, з якімі будаваў у 70-х гадах недалёкую ад гэтага месца царкву св. Еўфрасінні Полацкай. Прыходзіў ён сюды таксама наведаць магілку маці, або проста так — каб даць адпачынак думкам. Бо нішто так не супакойвае калатнечу іх, як сузіранне могільніка.

Апошнімі гадамі Колі цяжка давалася бываць тут, бо злачынны інсульт прыпыніў ягоную хаду, а пасля прыкаваў да ложка.

Але духам ён не паў, без ніякіх нараканняў змагаўся з нямогласцю, трываў і не паддаваўся хваробе. Яму спрыялі ўва ўсім гэтым ягоная лагода характару ды клапатлівая цярплівая жонка Рэня.

Ён чытаў перадаваныя яму газеты "Наша Ніва" й "Наша Слова", цікавіўся падзеямі ў Беларусі ды ў мясцовым царкоўным і грамадскім жыцці. Коля азнаямляў дзвюх медсясцёр-амерыканак, якія даглядалі яго ўдома, з Беларуссю. Адна з іх, калі прыязджала раніцай і адчыняла дзверы ягонага пакою, на ўвесь свой бадзёры голас віталася з ім: Good morning, Mister Kostsiuk from BELARUS!

Коля любіў слухаць песні, любіў спяваць. Абставіны скляліся так, што родная песня прагучала і пры Колевым адыходзе з гэтага свету. Песняй "Люблю наш край" рашылі падтрымаць бацькаў кволы стан дочкі Ірэна і Ліля, стоячы пры ягоным ложку.

Ціха загучалі словы: "Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз пазнала шчасце, слязу нядолі праліла…" Бацька, заплюшчыўшы вочы, з усмешкай слухаў гукі песні, якую сам ці раз спяваў. А калі спеў дабег да канца, ён ужо не дыхаў.

Паховіны Мікалая Касцюка, беларуса-патрыёта, які пакінуў след па сабе ў нашчадках ды ў выніках працы на рэлігійна-грамадскай ніве, былі людныя, урачыстыя і памятныя, са шчырымі спачуваннямі жонцы Рэні, дочкам Ірэне і Лілі ды ўсім іхным родным.

*Паводле Янкі Запрудніка*

## НЕ СТАЛА АРХІЯПІСКАПА ЮРЫЯ



Сумная вестка прыйшла ад Віктара Дударава з ЗША.

29 лістапада 2015 г. памёр архіяпіскап Юры.

Эмігідыюш Рыжы (архіяпіскап Юры) нарадзіўся 5 жніўня 1933 года на хутары паблізу вёскі Латыгала Пастаўскага павету Віленскага ваяводства (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці). З сям'і "ворагаў" народу. У 1946 годзе быў фактычна дэпартаваны ў Польшчу. Ад 1976 году жыў у ЗША. У 1977 пачаў душпастырскую службу.

Эмігідыюш Рыжы ў 2003 годзе напісаў і выдаў кнігу ўспамінаў і разважанняў "Мой крыж", ягоныя апавяданні друкаваліся ў штогодніку "Беларус".

Выказваем глыбокія спачуванні ўсім блізкім памерлага, хто ведаў яго і шанаваў. Светлая памяць пра яго застанецца ў нашых сэрцах.

*Паводле Віктара Дударава*

НАВІНЫ

## АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ Ў ГІСТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ КАРЭЛІІ

2 лістапада 2015 на базе Карэльскага філіяла Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі адбыўся першы ў гісторыі рэспублікі З'езд беларусаў Карэліі.

Карэлія – шматнацыянальная рэспубліка, у якой пражываюць прадстаўнікі 130 народаў, сярод іх беларусы – трэці па колькасным складзе этнас. Ініцыятарам правядзення З'езду стала Петразаводская грамадская арганізацыя Мясцовая нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў "Белая Русь".

У працы З'езду ўзялі ўдзел каля 100 чалавек. Дэлегаты З'езду вырашылі правесці арганізацыйную працу па падрыхтоўцы дакументаў для рэгістрацыі рэгіянальнай грамадскай арганізацыі нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Карэліі", аднымі з галоўных кірункаў працы якой стане ўмацаванне братэрскіх сувязяў народаў Расіі і Рэспублікі Беларусь, а таксама садзейнічанне захаванню самабытнасці беларускай культуры ў Карэліі.

*Паводле belros.org*

## У НЬЮ-ЁРКУ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ГЕРОЯЎ-СЛУЧАКОЎ

У нядзелю 29 лістапада беларусы Нью-Ёрка традыцыйна сабраліся ў грамадскай зале на Атлантык Авеню, 401, каб урачыста адзначыць 95-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну і ўшанаваць памяць герояў-паўстанцаў. Перад тым у царкве пасля нядзельнай літургіі была адслужаная паніхіда ў памяць случакоў.

Святочную імпрэзу адкрыла Таццяна Красоўская – старшыня Бруклінскага аддзела БАЗА як асноўнага арганізатара мерапрыемства. Далей рэй павяла моладзь. Пад рэжысёрскім кіраўніцтвам сяброўкі Управы аддзела Наталлі Федарэнкі дзяўчаты і хлопцы падрыхтавалі мастацкую дзею. Ролю пакутнай Маці-Беларусі, якую абаранялі яе сыны-героі, у чорнай сукенцы вельмі пранікнёна выконвала госця з Варшавы, журналістка Наста Ільіна. Апранутыя ў нацыянальныя строі маладыя людзі зачытвалі тэксты з успамінаў паўстанцаў і з некаторых мастацкіх твораў. Пастаноўка атрымалася ўражвальная, і прысутныя рэагавалі вельмі цёпла і актыўна.

*Ганна Сурмач*

# ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Шаноўныя сябры!

Віншуем вас з Калядамі і Новым годам!

З многімі з вас мы разам ужо 25 год; менавіта столькі сёлета споўнілася "Бацькаўшчыне"! Спадзяемся, што 2016 год замацуе нашыя супольныя поспехі і сталае партнёрства! Хай рэалізоўваюцца вашыя планы, здзяйсняюцца мары, пашыраецца сяброўства, віруе актыўнасць ў вашых суполках ды асяродках! Жадаем сустрэць святы са светлымі думкамі і з добрым настроем! Няхай надыходзячы год прынясе шмат цікавых падзей, добрых навінаў і пазітыўных эмоцый! Добрага вам здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, дабрабыту, нязгаснай энергіі і натхнення на новыя дасягненні ў нашай агульнай працы на карысць незалежнай Бацькаўшчыны-Беларусі.

Шчаслівых Калядаў і Новага года!

Будзьма разам!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



Мастак: Наталля Цэван



## БАРАК АБАМА ПАВІНШАВАЎ БЕЛАРУСА СА 100-ГОДДЗЕМ

Паэт Міхась Кавыль (сапраўднае імя — Язэп Лешчанка) нарадзіўся на Случчыне 1 снежня 1915 г., а бальшыню жыцця пражыў у амерыканскім горадзе Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрсі. Саўт-Рывэр — месца пражывання вялікай беларускай калоніі.

Сям'я і сябры Міхася Кавыля адзначылі ў нядзелю 29 лістапада стагоддзе ягонага жыцця, плённага на ніве роднага слова й грамадскай дзейнасці. У царкве Св. Еўфрасінні Полацкай хор прапяяў юбіляру "Многая лета", а на пачастунку ў ягоным доме ўсе дружна праспявалі вельмі папулярную песню на словы ягонага вершу "Васілёчкі":

Расцвіталі ў полі васілёчкі,  
Ой, чаму кароценькія ночкі,  
Ой, чаму вялікія дзянькі?

Юбіляр атрымаў віншаванне з Белага Дома ад прэзідэнта Барака Абамы і спадарыні Мішэль Абамы.

Управа Беларускага інстытута навукі і мастацтва, сябрам якога на працягу доўгіх гадоў быў Міхась Кавыль, перадала яму і ягоным сынам і ўнукам разам з віншаваннем копіі старонак з англамоўнае гісторыі беларускай замежнай літаратуры брытанскага прафесара Арнольда Макміліна, на якіх аўтар апісвае літаратурныя творы Міхася Кавыля.



*Міхась Кавыль з віншавальнымі падарункамі. На заднім плане (злева): сын Жорж, нявестка Сіндзі, унук Мэцью і сын Міхась*

*Паводле Ганны Сурмач*

## ЗМАГАРНЫЯ ДАРОГІ КАСТУСЯ АКУЛЫ

16 лістапада споўнілася 90 год з дня народзінаў Кастуся Акулы – лаўрэата Прэміі Беларускага ПЭН-Цэнтра імя Ф. Багушэвіча, заснавальніка Згуртавання беларусаў Канады, пісьменніка, мемуарыста, журналіста, грамадскага дзеяча.

Кастусь Акула (да эміграцыі Аляксандр Качан) нарадзіўся 16 лістапада 1925 г. у вёсцы Верацеі Дзісненскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Крулеўшчынскі сельсавет Докшыцкага раёна на Віцебшчыне). Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, з вясны 1944 года — курсант Мінскай афіцэрскай школы БКА. З лета 1944 г. на эміграцыі. Ваяваў у складзе 2-га польскага корпуса Брытанскай арміі. У 1946—1947 гадах жыў у Вялікабрытаніі. Браў удзел у заснаванні Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі. У чэрвені 1947 года пераехаў у Канаду. У Канадзе рэдагаваў газету "Беларускі Эмігрант", часопіс "Зважай" (1974—1997).

У эміграцыі былі напісаныя і выдадзеныя празаічныя і мемуарныя творы Кастуся Акулы. Асноўнымі з іх былі раман "Змагарныя дарогі" і раман-трылогія "Гараватка".

Памёр Кастусь Акула 29 студзеня 2008 года ў канадскім Таронта.

*Паводле прэс-службы ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*

**Беларусы ў свеце**
№ 11-12 (163), лістапад-снежань 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко. Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская. Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27